Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

31 ЛІПЕНЯ - 6 ЖНІЎНЯ 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 3000 РУБЛЁЎ
№31 (171)

АДНА ЗЯМЛЯ

МАЛАДЗЕЧНА

## Сцеражыся «курачак»!

Як паведаміў галоўны ўрач Маладзечанскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Віктар Белік**, памянялася сітуацыя з аналізамі сабраных грыбоў. Праверкі на радыенукліды апошнім часам часта паказваюць перавышэнне дапушчальных узроўняў.

Толькі ў сераду, прыкладам, у 7 выпадках даследаванняў грыбоў (з 7!) выяўлена перавышэнне ўтрымання радыенуклідаў. Практычна ва ўсіх выпадках гэта тычыцца «курачак». Нават вараных.

Небяспечнымі зонамі для збору грыбоў з'яўляюцца **Заскавічы, Самалі, ст. Пруды (усе - Маладзечанскі р-н), Чарчонава, Даманава, Сосенка, Ілья (усе - Вілейскі р-н)**. Таму будзьце асцярожныя пры пакупцы грыбоў.

*Аддзел інфармацыі.*

АСТРАВЕЦ

## Тэлеграф змяніў аблічча.

У рэкордныя тэрміны (каля аднаго месяца) тэлеграф мясцовага раённага вузла электрасувязі з шэрага ператварыўся ў прыгожы, у еўрапейскім стылі, будынак.

І хаця на падобнае "пераапрананне" выдаткавана больш за 100 мільёнаў рублёў, тым не менш, гэта таго каштавала, бо патэлефанаваць у іншы горад куды прыемней з новай кабіны.

Усе матэрыялы закупляліся ў мінскай фірме "Аўтатрэйд"; наперадзе ў сувязістаў рамонт уласнымі сіламі ў кабінетах.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ВІЛЕЙКА

## Сем'і–выпрабавальнікі

Стадыён у Будзішчах Ільянскага сельсавета прызнаны лепшым у раёне.

Пабудаваў яго цэнтр сацыяльнай рэабілітацыі дзяцей і падлеткаў "Надзея–XXI стагоддзе". Выпрабавалі ж збудаванне спартыўныя сем'і. Лепшай стала сям'я **Кібалкаў** з вёскі Лыцавічы.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

АСТРАВЕЦ

## "Чатыры замест трох", –

усміхаецца **Яўген Строк**. Старшыня райкома прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу зазначае пра 4 змены ў летніку "Ластаўка".

Падобны "фокус" удасца ажыццявіць сёлета, дзякуючы фінансавай падтрымцы многіх калгасаў раёна. Адпачываюць тут не толькі мясцовыя школьнікі, але і дзеці з забруджаных раёнаў Гомельшчыны.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

СМАРГОНЬ

## ЖКГ прырастае

У мясцовага аб'яднання жыллёва–камунальнай гаспадаркі пабольшае маёмасці. На баланс будзе перададзена 10 сельскіх кацельняў, 5,4 кіламетра цеплатрасы, 10 артэзіянскіх свідравін, 15,6 кіламетра водаправода. Падобнае рашэнне днямі прыняў выканком.

Асноўны галаўны боль у камунальнікаў звязаны з шасцю кацельнямі, бо тыя патрабуюць рамонту. На работы патрэбна каля трох мільярдаў беларускіх. Чакаецца, што яны паступяць з рэспубліканскага бюджэту, а таму зімой з цяплом у смаргонцаў праблемаў быць не павінна.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ВІЛЕЙКА

## Міс-Вілейка-98

На танцпляцоўцы прайшоў фінал конкурсу прыгажунь «Міс-Вілейка-98». У ім бралі ўдзел 28 дзяўчат ад 16 да 23 гадоў. Перамагла 17-гадовая навучэнка ПТВ-124 **Аксана Журыха**. «Віцэ-міс» стала **Наташа Дзяруга** з СШ №4. А «самай чароўнай» - **Каця Уладыка** з СШ №1.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Прыкрылі вуліцу



Спачатку рух па вуліцы Віленскай - частка трасы з **Нарачы на Валожын** - абмежавалі. А неўзабаве і наогул закрылі ўчастак ад Цэнтральнай плошчы да вуліцы Валынца. Галоўны інжынер Маладзечанскіх электрасетак **Іван Малінец** патлумачыў, што ў сувязі з заменай цеплатрасы вуліца будзе закрывацца і на іншых участках і надалей - да 1 верасня.

*Аддзел інфармацыі.*

ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА.

ЛЕТА

## Такі чаканы квас





ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА

*Ліпень. Поўдзень. Спякота. Усе шукаюць бочачку са звычайным квасам, каб трохі "астудзіцца". Напітак гэты па кішэні любому – 1 літр каштуе 8 тысяч. І людзі цярпліва чакаюць у чарзе тую хвіліну, калі зробяць першы глыток. Час цягнецца марудна, і куфаль з квасам здаецца далёкім–далёкім міражом. Затрымлівае тое, што многія бяруць напітак дадому, прыносячы з сабою розныя ёмістасці для разліву. Некаторыя не вытрымліваюць гэтага і выказваюць незадаволенасць прадаўцу, на што тая адказвае:*

– Я абслугоўваю па чарзе.

Але, нягледзячы ні на што, людзі мужна чакаюць. А як прыемна потым, пасля хвілін пятнаццаці, выпіць свой квас і адчуць, што ён удвая смачнейшы, чым тая ж "Фанта".

Больш за 25 год на маладзечанскім піўзаводзе вырабляюць хлебны квас – натуральны карысны прадукт. Расказвае загадчыца лабараторыі **Ларыса Гладкова:**

– У нас выкарыстоўваюць новую тэхналагічную схему з закрытым браджэннем. Па гэтай схеме скарачаецца вытворчы цыкл і памяншаецца колькасць абсталявання.

***– Колькі квасу вырабляюць за дзень?***

– Гэта залежыць ад заказу і ад надвор'я. Звычайна штодзень мы выпускаем пяць тон напітку, але маем магчымасць вырабляць і трыццаць.

***– З чаго складаецца квас?***

– З цукру, канцэнтраванага квасного сусла і з камбінаванай закваскі.

***– Колькі ў горадзе пунктаў па продажы квасу?***

– Толькі тры; некалькі месцаў не адпавядаюць санітарна-эпідэміялагічным патрабаванням.

***– Куды, акрамя Маладзечна, вязуць хлебны квас?***

– У Вілейку, Мядзел, Краснае і ў Крыніцу.

***– Якія ў вас перспектывы на бліжэйшую будучыню?***

– У наступным годзе плануем пашырыць асартымент.

Піўзавод Маладзечна рэкамендуе замест замежных напіткаў піць хлебны квас, бо ў ім няма шкоднай для здароўя хіміі. Дбайце пра сябе!

*Юлія ВАНСЛАЎ.*



СУД

## Асуджаны старшыня праўлення ПРІФа

***МІНСК. 28 ліпеня ў гарадскім судзе завяршыўся працэс па справе старшыні праўлення Першага рэспубліканскага інвестыцыйнага фонду Аляксандра Саманкова.***

Судовай калегіяй пад старшынствам Аляксандра Васілевіча вядомы прадпрымальнік прызнаны вінаватым у спробе дачы хабару і прыгавораны да шасці гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Слуханні па справе аднавіліся 28 ліпеня пасля амаль месячнага перапынку, калі праводзілася экспертыза аўдыёкасеты з засісам размоў абвінавачваемага з Аляксандрам Сазонавым -- былым памочнікам прэзідэнта Беларусі, а цяпер - міністрам прадпрымальніцтва і інвестыцый. Гэтыя касеты былі прадстаўлены ў якасці пацвярджэння вінаватасці А. Саманкова. Аднак абвінавачваемы і яго адвакат Гары Паганяйла выказалі падазрэнне, што ў запіс былі ўнесены змяненні, да таго ж, не ўсе яны былі прадстаўлены суду.

Экспертыза ж устанавіла, што змяненняў у аўдыёкасеце няма. Слуханні 28 ліпеня аказаліся непрацяглымі. Пасля выступлення пракурора, які патрабаваў у якасці пакарання 7 гадоў пазбаўлення волі, да суда звярнуўся адвакат Гары Паганяйла. Ён заявіў, што віна Аляксандра Саманкова не даказаная, яго падабаронны стаў ахвярай правакацыі.

*БелаПАН.*

КАМАНДЗІРОЎКА

# Эксгумацыя па–аляхновіцку

***АЛЯХНОВІЧЫ. Маладзечанская птушкафабрыка адзіная на тэрыторыі СНД, якая займаецца вытворчасцю індычыны. Справы ідуць добра. Таму расце фірменная гандлёвая сетка, у якой сёння налічваецца 9 магазінаў і 6 філіялаў. Індык, курыца каштуюць 133 і 86 тысяч за кілаграм. Набыць мяса можна і напалову танней – з рук. Аднак мала хто ведае, што прадаюць з рук часцяком здохлую птушку.***

Жыхарка Радашковічаў **Надзея Лісава** даслала ў рэдакцыю ліст.

*Набыла ў мужчыны індыка. Дома пры раздзелцы адчула моцны пах. Пазней даведалася, што так зарабляюць на жыццё беспрацоўныя. Здохлую птушку ў Аляхновічах выкідаюць за тэрыторыю. А яны, беспрацоўныя, падбіраюць і прапануюць тавар па кватэрах.*

Намеснік дырэктара фабрыкі **Міхаіл Соніч** факты "эксгумацыі" пацвердзіў. Разам з дырэктарам **Аляксандрам Клімашэўскім** яны злавілі "магільшчыка" – так тут называюць тых, хто гандлюе здыхляцінай.

Вытворчасць на птушкафабрыцы безадходная. Усё "лішняе" перапрацоўваецца ў мяса–касцявую муку. Праўда, бываюць моманты, калі абсталяванне не працуе. Тады здохлую птушку вывозяць за тэрыторыю і скідваюць ва ўтылізацыйную яму. Тушкі апрацоўваюцца каўстычнай содай, хлоркай. Надзейна закрываюць жалезнай накрыўкай з замком. Тэхналогія "пахавання" поўнасцю вытрымліваецца.



Тым не менш, па словах рабочых фабрыкі, расцягваюць амаль усё. Цягнуць мяхамі. Прычым, не свае работнікі (заўсёды ў сталоўцы яны могуць набыць самыя розныя мясапрадукты без нацэнкі – у кошт зарплаты).

Штатныя гандляры здыхляцінай ведаюць асаблівыя рэцэпты, як тушцы надаць таварны выгляд. Дзеля гэтага яе вытрымліваюць нейкі час у слабахларыраваным растворы або воцаце. Тады і мяса становіцца белым, і пах знікае. З сіняй здыхляціны ўтвараецца «свежараздзеланы» індык.

У энцыклапедыі сельскага гаспадара ёсць асобны раздзел – хваробы птушак. Сярод інфекцыйных значацца сальманелёз, псеўдачума, халера. Птушка гіне, і наўрад ці з яе можна выпарыць смерцяносныя бактэрыі.

На фабрыцы расказалі гісторыю. Упадабаў адзін дзед вудзіць карасёў на трупныя чэрві. Адзін раз прыйшоў да ўтыльямы, другі – нічога не знайсці. Падышоў да КПП, просіць дазволу зайсці на тэрыторыю, пашукаць. Пасмяяліся тады над старым. Аднак неўзабаве рыбаку пашчасціць. Абсталяванне, што дае мяса–касцявую муку, вось–вось мусіць стаць на рамонт.

Людзі, будзьце пільныя!

*Васіль САВІЦКІ, Юліус ФУЧЫК.*

ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА.

САПРАЎДНАЯ АМЕРЫКА

# Welcome to Iowa

*Працяг. Пачатак у №№ 8-30.*

## Амерыканцы і рэлігія

***Папярэджу чытача, што амерыканскія вернікі і іхнія культавыя ўстановы адрозніваюцца ад нашых (царквы, касцёла, сінагогі, малебнага дома і г. д.) як неба і зямля. Паколькі аўтар не належыць на нейкай рэлігійнай канфесіі, то піша тое, што бачыў і чуў. За што купіў, за тое і прадае.***

### Лютэранская царква

Яна здзівіла найперш тым, што апранаюцца сюды, хто ўва што. Сам будынак вялікі і прыгожы, нібы тэатр (нават ложы ёсць). І знешне, і ў сярэдзіне добрае, прадуманае асвятленне. Прастора не толькі ўяўная.

Падабенства з "установай культуры" ўзмацняе... аркестр. У яго складзе больш за дзесятак інструментаў. Адпаведна ў спінках крэслаў (не бачыў ніводнай царквы без сядзенняў) утульна размясціліся ноты, тэксты песень, вершы.

Неўзабаве пачаўся самы сапраўдны канцэрт нструментальнай музыкі; заспяваў дзіцячы хор; дырыжор дзёргаўся і махаў сваёй палачкай, нібы ў кінакамедыі...

### Friends house

Царква квакераў (у народзе) або Дом сяброў вядзе адлік свайго існавання яшчэ ад XVII стагоддзя. У Дэ Мойне "пасяджэнне" праходзіла своеасабліва. Сабраліся чалавек з 50, даволі доўга сядзелі ў цішыні, нібы "медытыравалі". Праз гадзіну падышлі дзеці прысутных - з нядзельнай школы. Час ад часу нехта ўставаў (некаторыя, праўда, сядзелі) і расказваў пра нейкі павучальны выпадак са свайго жыцця – дзяліўся з астатнімі перажываннямі, досведам.

Пасля гэтага ўсе сталі ў кола, узяліся за рукі, кожны сам сябе прадставіў прысутным. Затым прайшоў «абмен думкамі», пасля якога людзі паціснулі рукі тым, хто стаяў побач. Папілі кавы, разышліся па групах, завялі гутаркі.

Уражанне, што амерыканцам элементарна бракуе зносінаў. Можа, таму і рэлігійныя абрады яны прыстасавалі пад "клуб зносінаў", дзе ўсё для зручнасці наведвальнікаў.

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) | |
|---|---|---|---|
| | | 22.07 | 29.07 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 97 | **104,8** |
| Кілбаса сыравэндж. | 1 кг | 350 | **370** |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | 98,2 | **98,2** |
| Селядзец салёны | 1 кг | 48 | **50** |
| Рыс | 1 кг | 32,5 | **32,5** |
| Цукар | 1 кг | 28,3 | **28,3** |
| Грэчка | 1 кг | 35 | **35** |
| Алей | 1 л | 70 | **71** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 26,3 | **25,5** |
| Маянэз | 250 г | 24 | **24** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 75 | **76** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 26 | **30** |
| Соус там. "Мінскі" | 0,5 л | 30 | **33** |
| Лімоны | 1кг | 64 | **65** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 45 | **40** |
| Масла | 1 кг | 100 | **100** |
| Тварог | 1 кг | 25 | **25** |
| Малако | 1 л | 8 | **10** |
| Бульба свежая | 1 кг | 18 | **12** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 30 | **30** |

*Падрыхтавала Юлія ВАНСЛАЎ*

ЛЮДЗІ І СПРАВЫ

# Які Сяржант не марыць стаць генералам?

***МЯДЗЕЛ. Хаця прозвішча ў кіраўніка раённага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання не генеральскае, думае і дзейнічае ён як сапраўдны стратэг.***

**Уладзімір Сяржант** узначальвае мясцовае раённае тэрытарыяльнае медыцынскае аб'яднанне (РТМА) менш за год. Да таго працаваў галоўным урачом Свірскай гарпасялковай бальніцы. Праявіў сябе не толькі як урач–педыятр, але і ў іншых накірунках лякарскай справы. І не дзіва: ад мястэчка да Мядзела з паўсотні кіламетраў, нярэдка і складаныя аперацыі на месцы рабіць даводзіцца, і роды прымаць.

Тут, у Свіры, праявіліся таксама арганізатарскія здольнасці Сяржанта. Мясцовую бальніцу, хаця і абслугоўвала яна не толькі тамтэйшых жыхароў, але і хворых з суседніх раёнаў Гродзенскай ды Віцебскай абласцей, да нядаўняга часу і бальніцай назваць цяжка было – стары даўляны будынак, дзе ўсе выгоды – рукамыйнік ды "утка" пад ложкам. Галоўны ўрач доўга дабіваўся будаўніцтва новай бальніцы, але "наверсе" далі дазвол толькі на капітальны рамонт. І тады Уладзімір Сяржант пайшоў на абхадны манеўр: на ўласныя страх і рызыку распачаў "перабудову". Спачатку развалілі адно крыло, на яго месцы ўзвялі новыя сцены, затым – другое. І так да апошняга. Будавалі гаспадарчым спосабам, і сам галоўны ўрач, і яго падначаленыя добраахвотна адпрацавалі на падсобных работах больш за два месяцы. Затое бальніца атрымалася – не нарадавацца, для дзяржавы зэканомілі каля адзінаццаці мільярдаў рублёў.

Ініцыятыва, аднак, караецца, нават калі выкліканая яна высакароднай мэтай: за свой учынак толькі не паплаціўся пасадай.

Страсці паціху ўляглiся, а Уладзіміра Сяржанта павысілі да самага галоўнага начальніка раённай медыцыны.

Але і на новай пасадзе Сяржант не акапаўся ў тыле: за кароткі тэрмін здолеў пераламаць утрыманскую пазіцыю, якой грашылі некаторыя кіраўнікі медыцынскіх устаноў; актыўна расчышчае дарогу маладым; падтрымлівае і заахвочвае ініцыятыву. А досвед медыка–будаўніка спатрэбіўся і ў Мядзеле – сёлета галоўны ўрач паставіў на мэце ўрэшце рэшт завяршыць узвядзенне і абсталяваць новую паліклініку, якая ўжо даўно ў шэрагах "даўгабуду".

Можа скласціся ўражанне, што Уладзімір Сяржант і не медык зусім, а ўмелы адміністратар. Але гэта будзе памылка. І жыхары далёкіх ад райцэнтра Будслава, Крывічоў ці Альшэва, і насельнікі самога Мядзела, вітаючыся з ім, з павагай гавораць: наш доктар!

*Віталь ПАШУК.*



*І ўрач, і будаўнік (Уладзімір Сяржант на новым аб'екце).*



*Галоўны ўрач гарпасялковай бальніцы Людміла Усціновіч.*



*Пацыенты Свірскай бальніцы задаволеныя: палячыцца і адпачыць цяпер ёсць дзе.*

ФОТА МАРЫІ КРАСОЎСКАЙ.

ВЕРСІІ

# "Чужак"

***СМАРГОНЬ. Гэтым летам мне некалькі разоў давялося пабываць на нядзельным базары. Там і пачуў гэтую таямнічую гісторыю.***

У канцы васьмідзесятых у Смаргонскім храме пачаўся рамонт. У тыя часы (савецкі перыяд) рамонтам культавых будынкаў займаліся шабашнікі. Таму ніхто не здзівіўся, калі пры наборы брыгады з'явіўся "чужак". Пры праверцы ён аказаўся добрым майстрам, і яго ўзялі, не запытаўшыся, хто ён і адкуль. Праз колькі тыдняў высветлілася, што "чужак" – акуратны і сумленны работнік, які не ўжывае гарэлкі і верыць у бога. Таму само сабой зразумела, калі яму даручылі ключы ад дзвярэй храма.

Тады і адбылося гэтае таямнічае здарэнне. Аднойчы раніцай, калі брыгада перад работай сабралася каля храма, "чужак" не прыйшоў. Паспрабавалі дзверы – аказаліся адчыненыя. Пры аглядзе высветлілася, што з храма нічога не знікла. Але ў алтарнай частцы сцяна аказалася парушанай – пад вонкавай кладкай угадвалася ніша. Тут і успомнілі члены брыгады, што "чужак" быццам падобны на служку, які быў у храме яшчэ пры Польшчы.

Што было ў тайніку? Першае, што прыходзіць на розум, – гэта золата. Але ж у храме магла быць схаваная і якая–небудзь святыня? Цяпер гісторыя пакрытая цемрай, хаця варта спадзявацца: усё тайнае з часам становіцца яўным.

*Ігар КІЦІКАЎ.*







*1 - Кальвінскі храм,*
*2 - Жылая радавая забудова*

УРОКІ САМААБАРОНЫ

# Дазваляецца насіць з сабой

***Працяг тэмы (№24 ад 12–18 чэрвеня).***

Той з чытачоў, хто з'яўляецца няўпэўненым у сабе чалавекам, можа далей артыкул не чытаць, таму што, па статыстыцы, большасць людзей у экстрэмальнай сітуацыі не здольныя гэтымі сродкамі абараніцца з прычыны псіхалагічнае непадрыхтаванасці. У ЗША правялі эксперымент, дзе жанчынам давалі газавы балончык і казалі, што па выхадзе з супермаркета будзе ўяўнае нападзенне злодзея. У выніку высветлілася, што толькі ў некаторых эксперыментуемых атрымалася дастаць балончык і літаральна ў адзінак – трапна выкарыстаць яго.

Дарэчы, тым, хто ўсё ж спыніў свой выбар на гэтым сродку абароны (рэгістрацыя і дазвол не патрэбныя), некалькі парадаў: спраўдзіць тэрмін захоўвання, зрэзаць пластыкавыя вусікі на кнопцы, не выкарыстоўваць супраць ветру і ў невялікіх замкнёных памяшканнях (салон машыны). Акрамя таго, варта памятаць, што ў п'яных людзей зніжаная балявая адчувальнасць, таму ваш газавы балончык яны могуць проста не "адчуць".

У Беларусі грамадзянам дазволена абараняцца газавай зброяй (але не агнястрэльнай). Каб стаць уладальнікам газавага рэвальвера ці пісталета, трэба мець не меней 18 год, не стаяць на ўліку ў псіха–неўралагічным дыспансеры, не мець судзімасці, атрымаць рапарт ад участковага і заплаціць крыху грошай. Варта заўважыць, што пры рэгістрацыі зброя, набытая вамі на "чорным рынку" належыць праходжанню адпаведнай экспертызы ў Мінску. Як відаць, у такім выпадку ёсць рызыка страціць зброю пры негатыўным заключэнні эксперта. Сертыфікаваную газавую зброю афіцыйна купіць можна ў спецыялізаваных крамах у Мінску (калі пашанцуе). Акрамя таго, для жыхароў Мінскай вобласці ў міліцыі могуць запатрабаваць паставіць кватэру пад сігналізацыю, спасылаючыся на "адпаведнае" рашэнне Мінаблвыканкома (а ў гэтым рашэнні напісана толькі пра газавую зброю). Таму, калі гэта тэхнічна магчыма (ёсць кватэра, тэлефон і нумар тэлефона пачынаецца з той, што трэба, лічбы), спатрэбіцца аддаць кватэру пад ахову (а можа, так і лепей?!).

Такім чынам, калі зброя зарэгістраваная, яе можна зарадзіць халастымі, газавымі ці шротавымі патронамі (дадаткова рэгістраваць не трэба). Раней нашэнне ў зброі шротавых патронаў трапляла пад 213 артыкул Крымінальнага кодэкса, пасля, рашэннем Пленума Вярхоўнага Суда, яны былі дазволеныя для самаабароны, таму, каб не рызыкаваць, лепей увогуле не набываць шротавыя прыпасы. Болей чым дастаткова для абароны – газавыя зарады. Трэба памятаць, што буйнакаліберная зброя можа выклікаць смяротныя раненні на адлегласці нават 3–4 метраў.

Газавая зброя карысная тым, што, каб спыніць злачынства, звычайна хапае проста яе дэманстрацыі.

Цяпер колькі словаў пра халодную зброю. Крымінальны кодэкс не дазваляе нашэнне і выкарыстоўванне халоднай зброі, але не захоўванне. Таму можна ў кватэры ўтрымліваць корцікі, нунчакі і шаблі, але нельга браць з сабой у дарогу.

Нож будзе лічыцца халоднай зброяй, калі клінок сканчаецца востра, на дзяржальні ёсць гарда (абмежавальнік, каб рука не слізганула на клінок), канструкцыя клінка і дзяржання асабліва трывалая (клінок не павінен дэфармавацца пры бакавой нагрузцы ў 65 кг).

Адзначаныя выпадкі продажу праз камерцыйныя крамы нажоў, якія могуць быць прызнаныя за халодную зброю, таму будзьце ўважлівыя.

Нашэнне любых прадметаў, спецыяльна перапрацаваных для нанясення цялесных пашкоджанняў (напрыклад, завостраныя нажніцы) таксама трапляе пад Крымінальны кодэкс. Праўда, важкім момантам тут будзе прычына знаходжання гэтых прадметаў у вас (ідзяце ў гараж ці на танцы). Вось чаму нунчакі можна праносіць з сабой толькі на трэніроўку ці з яе.

Выбіраючы сродак для абароны, можа, варта спыніць сваю ўвагу на электрашокерах? Сучасныя мадэлі дазваляюць нават ствараць бяспечнае поле вакол сябе, не дазваляючы наблізіцца злачынцу.

Увогуле, можна выкарыстоўваць шмат што іншае для абароны, але, як было адзначана, застаецца пытанне: ці здольныя будзеце гэта выкарыстаць?

Пра псіхалагічны аспект здзяйснення абароны – наступным разам.

*Вацлаў ПЛЕЧКА.*

